№ 16 (132). Вільня, 25 Ліпеня 1938 г. Год X.




# Прыкладная постаць Каруся Каганца

Калі буры, пяруны і навальніцы хочуць зьбіць нас з выбранага шляху і калі сапраўды цяжка йсьці да мэты, — тады добра заглянуць у сваю гісторыю, паглядзець як працавалі нашыя папярэднікі, як яны перамагалі напатыканыя перашкоды, і ад іхняй стойкасьці і вытрымаласьці зачэрпнуць сілы да далейшае працы. А выдатных, стойкіх і верных сыноў Беларускі народ шмат ужо меў. Многія з іх не шкадавалі нават жыцьця свайго на аўтар свайму Народу.

Адным з лепшых сыноў Беларускае Зямлі быў і Казімер Кастравіцкі, ведамы ў бел. літаратуры, як Карусь Каганец. Сёлета 20.V мінула ўжо 20-ць год ад ягонае сьмерці. У гэтым кароткім артыкуле, пасьвячаным ягонай памяці, ня зможам і не сабіраемся даць поўны абраз беларускае дзейнасьці і літаратурнае творчасьці К. Каганца, астаўляем гэта нашым навукоўцам і заклікаем іх да гэтага, бо ўжо трэба гэта зрабіць, так як трэба было-б выдаць асобнымі кніжкамі творы ягоныя раскінутыя па розных часапісах. Тут зьвернем увагу толькі на найбольш важныя і характэрныя рысы і факты дзейнасьці Казімера Кастравіцкага.

Вось-жа працу сваю на бел. адраджэнскай ніве Кастравіцкі пачаў у вельмі цяжкую, дзікую пару расейскае царска-Александраўскае рэакцыі (канец XIX ст.), тады, калі проста немагчыма было што-небудзь беларускае рабіць і калі за працу гэту гразіў Сібір і вастрог. Кастравіцкаму гэта ня было страшным. Ён быў гарачым рэвалюцыянэрам, чалавекам паступовым і кінуў кліч: *„Беларусь трэба падыймаць!“*. У 1893 г. напісаў ён першы свой


К. Каганец.

беларускі твор „Прамову“, у каторай між іншым гаварыў гэтак:

„Гэй, хлопцы, брацьця мае, а сыны Зямлі Беларускай, каторая раскінулася ад Гродна да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзьвіны перакінулася. Кіньце ўвакол вокам, сабярэце харашэнька думкі і скажэце, ці павінна так быць, як цяпер ёсьць? Ці справядліва гэта — ўсяго, што сваё чурацца: і мовы свае і звычаю свайго, і вопраткі свае? А ведайце тое, што мова наша калісь слаўнай была, і быў час, калі наша мова працьвітала пры дварэ каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж вас больш, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваеннымі заслугамі... Адно ня добра, што кожны славу прыносіць не сваёй старонцы, а ўсё чужым... Але не! Наш народ не загіне, і прыйдзе такая часіна, што прачнецца!.. “

Каганец моцна верыў, што будзе жыць Беларусь і для яе працаваў у народзе, пісаў беларускія гістарычныя і бытавыя апаваданьні, а таксама і вершы, якія друкаваліся ў „Нашай Ніве“, „Вольнай Беларусі“ і інш. часапісах. Пісаў ён і сцэнічныя творы, у найлепшым з якіх „Модны Шляхцюк“ моцна высьмейвае тую бел. моладзь, што набіраецца гарадзкое быццам культуры, хварэе на панскаць, гоніцца за „модаю“, гаворыць папольску і адракаецца ўсяго роднага. У бытавой сцэнцы „У іншым шчасьці няшчасьце схавана“ парушаны соцыяльныя несправядлівасьці.

К. Кастравіцкі быў чалавекам дужа арыгінальным. Ён, як ужо сказана, быў рэвалюцыянэрам, хадзіў заўсёды з фінскім нажом, а адначасна не забываў аб рэлігіі, маліўся, — маліўся з рукапіснай кніжачкі да набажэнства, якую сам напісаў пабеларуску. Маліўся ён уложанай сабой песьняй-вершам:

О, Божа, Спасе наш,
Ты міласьць нам пакаж,
З нядолі вызваль нас
Збудзі, Ты нас ўжо раз.

Ты вочы нам адкрый
І сьвету нам пашлі,
Ты праўду нам пакаж,
О, Божа, Спасе наш!...

Песьню гэту пяюць сяньня ўжо ўсе беларусы, пяюць яе і віленскія беларусы-каталікі ў касьцеле сьв. Мікалая.

У вершы „Наш сымбаль“ Каганец горача заклікае беларусаў змагацца *„за родную краіну, звычаі і мову“*, а так-жа *„грудзьдзю ставаць за веру“*.

Праф. Карскі даказвае, што пад рэлігійнай беларускай верай Каганец разумеў Унію. На той час, калі ён працаваў, Унія была з пункту гледжаньня нацыянальна-беларускага пажадана. Але часы зьмяніліся і Унія ў сяньняшніх абставінах надта-ж далёкая ад ідэалу веры агульна-беларускай. Ды ня ў гэтым справа. — Важным ёсьць тое, што Каганец, побач з справай нацыянальнай, сацыяльнай і рэвалюцыйнай, ставіў справу рэлігійную, каторая сапраўды вельмі важная. Бо-ж усім ведама, што рэлігію выкарыстывалі ў нас чужынцы для варожых Беларускаму Народу палітычных мэтаў асыміляцыйных, а нам бе-

# Зьмены ў савецкай земляробскай гаспадарцы

(Заканчэньне, пачатак гл. „Шл. Мол.“ № 15 (131).

Савецкія кіруючыя кругі, ясна, пачалі шукаць выхаду з тупіку і выхад гэты знайшлі ў індывідуалізацыі працы ў сельскай гаспадарцы. Шырака пачалі пісаць аб рэкордах, аб савецкіх „ударніках“. Асаблівай пашанай карыстаюцца з боку савецкай прэсы і грамадзкасьці кіраўнікі сталёвых коняў — трактараў. Аб іх пішуць газэты, ім складаюцца поэмы. Але трактарам можна-ж толькі ўзараць. А чым гнаіць? Косьці парэзанай жывёлы на патрэбы хімізацыі краіны камсамольцы ўжо сабралі, скаціны мала, мала так-жа й гною. І вось тут прыходзіць савецкая ўлада да перакананьня, што без гадоўлі не дайсьці да падняцьця сельскай гаспадаркі, да збольшаньня ўраджайнасьці калгасных палёў. Але гадоўля, як пісалі мы раней, у калгасах не ўдаецца. Год годам вясною жывёла ў калгасах масава гіне ад нястачы пашы. Улада шукае вінаватых! Расстрэлівае каго можа, як „ворагаў савецкага народу“, але сама знае, што „ня тут сабака зарыты“.

І вось у трэцім годзе другой пяцігодкі, пайменна 17 лютага 1935 г. склікаецца ў Маскву з учасьцем Сталіна зьезд калгасьнікаў-ударнікаў. Разважаюцца спосабы павялічэньня ўраджайнасьці калгасных палёў, узбагачэньня калгасьнікаў. Тут, перад воблікам грознага дыктатара, некаторыя з учасьнікаў зьезду ударнікаў сказалі: „калі-б мы працавалі так на калгасных палёх, як мы працавалі калісьці на сваіх, мы-б аплывалі малаком і мёдам“. Але хто будзе працаваць, калі ведае, што ня будзе карыстацца пладамі сваіх рук? На зьезьдзе пачаўся ўжо чацьвёрты этап — поўнай індывідуалізацыі ў граніцах калгаснай гаспадаркі. Прыняты новы статут калгасу, у апрацаваньні якога браў удзел і Сталін. У першым параграфе гэтага статуту гаворыцца, што калгас ёсьць дабравольнай арганізацыяй сялян. Другі параграф гаворыць аб зямлі. Зямля ёсьць агульна-народнай гаспадарственнай маемасьцю. Гэтая маемасьць аддаецца на вечнае карыстаньне калгасу, які атрымлівае ад казны дакумант—акт вечнага наданьня зямлі. Калгаснай зямлі ня можна прадаваць ані аддаваць у арэнду. Калгас можа толькі павялічыць абшар зямлі з дзяржаўных зямель (саўгасаў), але ніколі зьменшыць.

У граніцах калгасу кожны калгасьнік атрымлівае, залежна ад ураджайнасьці, $^1/_4$—1 гэктар у індывідуальнае карыстаньне. Плошча, якая знаходзіцца пад будынкамі, сюды ня ўключаецца. Калі селянін хоча выступіць з калгасу, ён ня мае права забраць сваю зямлю. Ён можа атрымаць гаспадарку толькі з вольных казённых абшараў, але ніколі з калгасных. Шнуры ў калгасе не дапускаюцца. — Трэці параграф статуту кажа аб сродках пра-

---

ларусам іменна трэба імкнуцца да таго, каб рэлігія служыла справе духовай і ня была ў супярэчнасьці з нашымі нацыянальнымі імкненьнямі. Праваслаўная Царква, Катал. Касьцёл і духавенства ў адносінах да беларусаў мусяць карыстацца беларускай мовай. Дзеля абароны нашае веры і правоў беларушчыны ў сьвятынях, калі прыйдзецца, трэба, як казаў Каганец, „грудзьдзю ставаць“. Беларусы праваслаўныя і каталікі могуць і павінны жыць у згодзе і не мяняючы свае веры, адны другіх падтрымліваць, ды тварыць адну згодную беларускую сям'ю.

Сяньня, ня гледзячы на тое, што беларускі адраджэнскі рух шагнуў далёка наперад ад часоў Каганцовае працы, аднак шмат каму з беларусаў, а нават з бел. дзеячоў, якія часта крывадушна адсоўваюцца ад рэлігійнае справы, трэба вучыцца ад Каганца, каторы хацеў, каб была еднасьць у Бел. Народзе і працаваў як на беларускай ніве рэвалюцыйна-сацыяльна-нацыянальнай, так і на ніве літаратурнай і рэлігійнай.

Я. Н.

---

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy 10)

# Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

## Hygijena spažyvieckich praduktaŭ

**Masła** heta toj pradukt, jaki my atrymlivajem z addzielenaj z małaka kłustaści. Na atrymańnie masła jošć šmat adumysłovych aparataŭ. Abasnavany jany ŭsie na tym, kab hetak ci inakš mocna traści małako. Dziakujučy henamu mechaničnamu dziejańniu paasobnyja ziarniatki kłustaści z sałodkaje ci kisłaje śmiatany, źbivajucca ŭ adnu masu. Z 25—30 litraŭ małaka miecimiem bolš-mienš 1 kilohram masła.

Na rynku viedajuć masła *deserovaje* (śmiatanačnaje abo stałovaje) i *viaskovaje*; na pieršaje kažuć masła sałodkaje. Masła sałodkaje — robiać sa śmiatany sałodkaje (śmiatana z pad centrahonki). U nas na vioscy raspaŭsiudžana tolki kisłaje masła. Miž inšym stałovaje masła šmat daražejšaje za kisłaje, adnačasna jano smašniejšaje, chacia chutčej psujecca (jałčeje). Kab masła mieła dobruju canu, kab jano było karysnym, tasujucca da jaho hetkija vymohi – jano pavinna być śviežaje, smašnaje, koler roŭny ŭ celaj masie, ad biełaha da žoŭtaha (koler ničoha nia kaža ab jakaści masła, jon zaležyć ad pašy, ad pary hodu, ad rasy karovy). Dobraje masła nia miecimie krupinak, značycca ŭ jom nia budziem bačyć paasobnych častak. Dobraje masła miecimie miły pach, i asablivy, sabie svomy smak. Nie pavinna ŭ jom być za lišnie vady (pryblizna $^1/_5$ vahi). Błahoje budzie masła jełkaje.

Kab masła nie jałčeła treba jaho dobra vymyć čystaju vadoju i pasalić, biaručy ad 3—10 čaściaŭ soli na 100 vahovych čaściaŭ masła. Jašče daŭžej možna trymać masła, kali jaho pieratapić.

Najlahčejšy sposab zrabić zapas masła na zimu budzie voś jaki. Uziać soli nia lišnie miełkaje i niezanadta hruboje. Miełkuju paśla ciažka z masła vybrać, a zahrubaja vielmi pavolna raspuskajecca. Dziela saleńnia na adno kilo masła brać bolš-mienš 50—70 hramaŭ soli. Solačy, razvałkavać masła na miscy i pasypaŭšy sollu skrucić jaho ŭ vałak i pierarablać dobra łyžkaju, pakidajučy potym u supakoju na jakich 15—20 hadzinaŭ. Sabiarecca tady źvierchu vada na maśle, jakuju treba adlić i jašče raz masła dobra vymiašać. Ciapier užo možna pałažyć jaho ŭ pasudzinu j pastavić ŭ chałodnaje miesca. Paźdaŭšy jašče adzin miesiac, ačyścić treba masła z soli j vady j uznoŭ pasalić, biaručy na adno kilo masła 40 hramaŭ (4 deka) soli. Ciapier składajecca masła ščylna ŭžo na stała ŭ harščok, nasypaŭšy na dno pieradom soli. Hetkaje masła nie źjałčeje j ačyściŭšy jaho ad soli možna zaŭsiody mieć dobraje j smašnaje.

дукцыі. У індывідуальным карыстаньні сялян астаюцца — гаспадарскія будынкі, прыладзе для працы на сваёй дзялянцы і часьць жывёлы. Абагульняецца ў калгасе жывы і мёртвы інвэнтар і запасы, патрэбныя ў прадукцыі. Для асабістай патрэбы сяброў калгасу выдзяляецца некалькі штук коняў з агульнага ліку калгасных коняў. Кожны калгасьнік у раёнах: збажовых, льняных, канапляных, бурачных, хлапковых, бульбяных, чайных і тытунёвых можа мець на ўласнасьць — 1 карову, 2 ялаўкі, 1—2 сьвіні з парасятамі, да 10 авец і коз, неабмежаваную колькасьць хатніх птушак (курэй, гусей, качак, індыкоў) і трусоў, ды да 20 вульлёў пчолаў.

У гадаўляных раёнах можна трымаць: 2—3 каровы, ялаўкі, 2—4 сьвіні з парасятамі, 20—25 авец і коз, рэшта тое самае, што і вышэй. У ўсходняй частцы эўрапэйскай Расеі, на Каўказе і Сібіры, дзе перад вайной гадоўля была высака разьвіта, можна мець 4—5 кароў, ялавак, 30—40 авец і коз, 2—3 сьвіні з парасятамі, 1 каня або 2 вярблюды, 2 аслоў і г. д. У Казакстане і іншых мясцовасьцях, дзе жыхары йшчэ ня жывуць аседла, лік жывёлы павялічваецца да 8—10 кароў, ялавак, 100—150 авец, 10 коняў, 5—8 вярблюдаў і г. д.

З гэтага бачым, што савецкая ўлада дайшла да пераканаНьня, што ў гадоўлі калектывізацыя зрабіла крок назад а не наперад. Таму і пайшла на ўступкі.

Апрача таго, на зьезьдзе было пастаноўлена, што выкінуць з калгасу селяніна можна толькі пастановай $^{3}/_{4}$ галасоў сяброў калгасу. Уступіць-жа ў калгас можа кожны, хто скончыў 16 г. жыцьця.

Якія могуць быць насьледкі праведзенай на зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў зьмены? Сталін на зьезьдзе кінуў кліч — узбагачайцеся! Ён ведаў, што калі дасьць пэўныя ўступкі ў індывідуальнай гаспадарцы, то кліч узбагачвайцеся! не астанецца без насьледкаў. Так яно і было. Маючы 1—2 каровы селянін стараўся для іх пашы. Калгасныя сенакосы і пасьбішчы былі для яго адкрыты. Сена на корм для жывёлы, ён, калі не ляніўся, мог мець. Гной скарыстаць ад вызначанай колькасьці жывёлы на $^{1}/_{4}$ гэктара ён ня можа, дык змушаны аддаваць яго на агульнае калгаснае поле. Сьвіней трымаць бяз бульбы і збожа немагчыма. Дзеля гэтага мусіць брацца за працу ў калгасе, каб атрымаць больш прадуктаў. Такім чынам калгасьнікі самі асабіста зацікаўлены ў лепшым ураджаі і хочаш-ня-хочаш прывязваюцца да калгасу. Тым вось можа тлумачыцца факт, што ўжо ў 1937 г. ураджай у СССР быў значна большы, чым у папярэднія гады. І калі раней Саветы прывозілі збожа з заграніцы, то цяпер могуць ужо самі кідаць яго на міжнародныя рынкі.

Сёлета савецкая ўлада пайшла на далейшыя ўступкі сялянам і выдала загад, што толькі 30 працэнтаў агульнага ўраджаю ў калгасе можа пайсьці на ўсялякія адлічкі, а 70 прац. мусіць быць падзелена між калгасьнікаў.

Прыглядаючыся да гэтых зьменаў трэба сказаць, што яны моцна павярнулі да передваеннай сыстэмы. Адносіцца гэта да кроўна расейскіх краёў, дзе перад вайною панавала абшчына. Там селянін зямлі на ўласнасьць ня меў.

Зусім інačай было на беларускіх землях. Тут было індывідуальнае гаспадараваньне і селянін прывык ня толькі да ўласнай каровы ці каня, але і да свайго кавалка зямлі. Таму трэба сказаць, што хаця апошнія зьмены ў савецкай земляробскай гаспадарцы ўносяць шмат чаго новага ў жыцьцё селяніна-калгасьніка ў параўнаньні з папярэдняй прымусовай калектывізацыяй, аднак яны не даюць яму магчымасьці належна разьвіць свае гаспадарчыя здольнасьці. Наш бел. селянін ідывідуаліст і яму трэба даць магчымасьць мець адпаведны абшар зямлі і належныя варункі гаспадараваньня, а тады будзем магчы пабачыць сапраўдныя плады ягонае працы.

**Інж.-агран. П. З.**



**Maślanka** — heta taja častka śmiatanki, jakaja astajecca źbiŭšy masła. Heny pradukt małaka šyraka raspaŭsiudžany dziela svajej karysnaści jak ježa i adnačasna dziela lekarskich svomaściaŭ, u dziaciej u lačeńni ŭ ich volnaści. Z maślanki robiać nadta smašny syr (švajcarski, niekatoryja vidy halanderskaha) i kefir.

**Syr** — u hetym pradukcie małaka majem najbolš białka. Syry byvajuć i kłustyja i chudyja. Kłusty syr miecimiem z celaha małaka; kali addzielim śmiatanu (asabliva na centrahoncy), syr budzie chudy. Dziakujučy prysutnaści ŭ syroch białka, źjaŭlajucca jany nadta karysnaju stravaju.

## Udar piarunom.

*Piarun* — heta złučeńnie elektryki, jakaja znachodzicca ŭ chmarach — z toj elektrykaj jakaja jość u ziamli. Kali hetyja dva toki złučacca, źjaŭlajecca śviatło — małanka (bliskavica) i hrymota, jakaja vyklikajecca nadta chutka prabiehajuč j elektryčnaj iskraj. Złučeńnie dvoch tokaŭ moža adbyvacca i pamiž dźviumia chmarami.

Padčas bury, kali pačynaje hrymieć i źjaŭlajucca piaruny, treba być nadta aściarožnym. U chacie treba začynić dźviery i vokny, kab nia było skraźniaka. Najlepš treba sieści zdalok ad vakna, na siaredzinie chaty, ale nie pad lampaju, kali taja visić na niejkim metalovym łancužku, ci na niejkim drocie, dziela taho, što elektryka najlahčej prachodzić praz metalovyja pradmiety. Nia treba siadzieć i bliska piečki ci kominu dziela taho, što piaruny pa sažy, taksama jak i pa metalach lohka prabiehajuć. Kali čałaviek znojdziecca padčas bury ŭ poli— nia možna chavacca pad dreva, muravanyja ścieny ani navat pad kopy siena ci zboža. Nia treba stajać blizka žyvioły ci vady. Kali čałaviek padčas bury jedzie, nia treba pahaniać kania, kab chutčej niedzie zajechać. Takich uciekačoŭ časta piarun dahaniaje. Lepš tady stanuć na siaredzinie darohi, zdalok ad dreva i vady i ždać pakul bura ŭspakoicca. Nia možna padčas bury trymać parasona ci kulasy z metalovym nakančeńnikam, kab nie pryciahnuć piaruna.

*Ratavańnie.* Časta čałavieka, u jakoha ŭderyŭ piarun, zakopyvajuć u ziamlu. Škada na heta času. Zamiest taho lepš pakinuć jaho na śviežym pavietry, abo vynieści z chaty, kali piarun uderyŭ u chatu.

Chvoraha treba raspranuć i palivać hałavu, hrudzi i ŭsio cieła chałodnaj vadoj. Pad nos treba dać paniuchać amanjaku, eteru, kalońskaj vady ci voctu. Padošvy i łydki raścirać treba ščotkami ci hrubym suknom. Nadta važna jość ŭmieć zrabić chvoramu štučnaje dychańnie. Dochtar tut moža najbolš pamahčy—dyk lepš jaho kliknuć da chvoraha.

# RAŚCIOM ŠTO-RAZ VYŠEJ

## Biełaruski balet „Jurje".

Adradžeńnie Biełaruskaha Narodu, nia hledziačy na niaspryjajučyja abstaviny, chutka jdzie napierad. Pačaŭšy ad najpraściejšaj i najprymityŭniejšaj śviedamaści nacyjanalnaj, sacyjalnaj i relihijnaj, praz roznyja prajavy arhanizacyjnaha kulturnaha žyćcia, vyjšaŭ naš narod na ahulny vysoki šlach usich cyvilizavanych narodaŭ. U śviecie palityčnym, navukovym, hramadzkim, artystyčnym i inšym zaniali Biełarusy adpaviednaje miesca. Pamінajem vializarnyja (pamima praśledu) dasiahnieńni ŭ B.S.S.R, a zakraniem tolki spravu biełaruskaje muzyki i tancaŭ u Polskim Haspadarstvie.

Nia raz možna było pačuć, jak mnohija pany i paŭpanki abśmiejvali našyja „mužyckija" pieśni, tancy i zvyčai, zabyvajučysia ab tym, što Adam Mickievič perły svajej tvorčaści „Dziady" abapior na našych biełaruskich „Dziadoch"-paminkach. Maniuška iznoŭ-ža, jakim chvalacca Palaki, amal usiu svaju muzyčnuju tvorčaść abapior na biełaruskich pieśniach. Bahata karystaŭ z našaj narodnaj pieśni i kampazytar Hlinka, jakoha Rasiejcy ličać svaim „russkim", a jaki faktyčna byŭ Biełarusam. Całymi viakami, śviedama i niaśviedama, prysvojvali sabie susiednija narody našyja duchovyja skarby. Adbyvajecca heta i siańnia. Miž inšym i Vilenskaje Radyjo takija sposaby praktykuje. Tak napr. u m-cy mai siol. u adnej sa svaich aŭdycyjaŭ dla školaŭ p. n. „Piosenki z Wileńszczyzny" nadało jano dźvie pieśni polskija, a 7 biełaruskich pieratłumačanych na polskuju movu. I nidzie nie zaiknułasia, što heta jość pieśni ŭziatyja z bahataj biełaruskaj skarbnicy. Jak, sapraŭdy, stydu niama tvarcom padobnych aŭdycyjaŭ! Choć hetaki pastupak „pachnie" b. rasiejskim čynoŭnictvam, to adnak Biełaruskamu Narodu jon nia hrozny, a tolki daje adjemnaje śviadoctva kiraŭnictvu Vilenskaha Radyja.

Pieśnia naša, jak užo pisałasia, siahnuła apošnim časam vielmi vysaka i nam samym, jak i inšym narodam pakazałasia, ŭ svajej poŭnaj krasie.

Biełaruskaja paezija taksama staić na vysokim roŭni i majem nadziei na śvietłuju budučyniu, bo jość u hetaj halinie maładyja i talenavityja siły.



*Scena z baletu „Jurje".*

Tancy našyja nie mahli daŭžejšy čas uźniacca na naležny im rovień, choć mieli my takich słaŭnych tancoraŭ, jak Bujnicki, dy na našych pradstaŭleńniach časta možna było pabačyć vysoka-artystyčnaje vykanańnie biel. nac. tancaŭ. Šyrejšyja pačatki daŭ tut Miensk, u jakim niekalki hod tamu paŭstała škoła muzyki i baletu. Miž inšym apošnim časam viestki z Miensku padajuć, što tam kampazytar Cikocki napisaŭ niadaŭna biełaruskuju operu ŭ 4-ch aktach p. n. „Michaś Padhorny" asnutuju na biełaruskich narodnych melodyjach. Tvor (libretto—słovy) „Michaś Padhorny" napisaŭ P. Broŭka. Małady kampazytar Kryšnier ułažyŭ biełaruski balet „Sałaviej", jaki asnuty na biel. nac. tancach i karahodach.

U Polščy taksama artystyčny śviet pačaŭ cikavicca biełaruskimi tancami.

Viedamaja i talenavitaja kiraŭnica baletaŭ **Taciana Vysockaja** adviedała Vilenščynu, prastudyjavała našyja tancy i zvyčai i ŭ vyniku hetaha ŭłažyła vialiki artystyčny biełaruski balet p. naz. **„Jurje"**. Muzyku napisała M. Klechnioŭskaja. Balet hety byŭ pieršy raz pradstaŭleny ŭ krasaviku i maju sioleta ŭ Varšavie ŭ Vialikim Teatry. Zacikaŭleńnie baletam „Jurja", jak i naahuł biełaruskimi tancami, było ahromnaje. Voś uryvak recenzyi najpavažniejšaha polskaha ilustravanaha časapisu „Światowid" № 16 z dn. 16.IV.38:

„Reč dzieicca ŭ časie viedamaha na Vilenščynie „Jurja", źviazanaha z postaćciaj śv. Juraha — patrona raślinaŭ i lasoŭ. Św. Jury pakazvaje dziciaci dzivy lesu. Dało heta Tacianie Vysockaj pole da pakazańnia doŭhaha karahodu lasnych duchaŭ, skačučych pa lesie ŭ ciomnuju noč św. Juraha. Jość heta chochliki i elfy, rusałki i dzivažony, a ŭsio padskakivaje, brykaje až kipić i katłujecca. Jość taksama pryhožy taniec Lasnoj Panienki i jaje Ulublenaha. Urešcie na zakančeńnie — skočnyja i melodyjnyja biełaruskija tancy: „Čarot", „Juračka" i „Lavonicha".

Balet „Jurje" sapraŭdy duža pryhožy; kab naležna pradstavić sabie ŭsiu krasu i bahactva biełaruskich tancaŭ, treba pabačyć hety balet.

Pani Tacianie Vysockaj naležycca ad Biełarusaŭ hłybokaja padziaka.

**Dr. J. M.**

* * *

Ну чаго?
Ну чаго табе трэба,
Неспакойнае сэрца маё?..
Гэта сіняе, сіняе неба
Нам вачамі ня выпіць усё.

Раскідаючы песьні, як карты,
Маладое ў грудзёх нясучы
Ты запраўды, жыцьцё,
нешта варта!—
Неспалохаеш доля нічым!

Радасьць дня —
зацьвіцеўшая вішняй
Як пакрыецца сумам ціхай начы
І накіне мне боль на аблічча —
Я малюся, у даль ідучы.

Варажу на карунках зялёных
Маладога лісьця і травы,
Колькі жыць мне
у песьнях вясёлых,
Колькі буду яшчэ маладым.

І якая-б мне карта ня выйшла,
І якіх-бы прыкмет не спаткаць—
Песьня будзе цьвіцець яшчэ вішняй
І я буду —
цярпець
і кахаць.

М. МАШАРА.

Вясна 1938. Дзікава.

## Летні вечар

*Залопаў вецер крыльлямі*
*Над вёскаю маей,*
*Ноч кралась ціхім шолахам,*
*Ішла, як чарадзей.*

*Ў гародзе хорам конікі*
*Званілі аб жыцьці;*
*З балота драч нязмораны*
*Пагуківаў ў трысьці.*

*А ў вёсцы пуста-шэрай*
*Ні хлопцаў ні дзяўчат...*
*Парваны песьні працаю —*
*Сум бродзіць каля хат...*

А. Чаромхін.



## Bury i navalnicy

*(Jak abryvajucca chmary)*

Viasna i leta sioleta niespakojnyja. U lipni m-cy badaj kožny dzień prachodziać u roznych miascoch bury z piarunami, to hrad z vialikimi navalnicami, jakija nistožać nia tolki pasievy, ale lasy, drevy, valać budynki, masty i h.d. U samaj tolki Vilenščynie bury i hradabićci narabıli ŭžo strataŭ na milijony złotaŭ. Piaruny-ž zabili kala 20 asob.

Časta, kali prachodziać bury, a doždž „ljeć jak z cebra", ludzi havorać, što „musić chmara abarvałasia". I tak sapraŭdy byvaje. Jak-ža heta dziejecca.

Voś-ža ŭ ciopłyja dni byvaje tak, što viecier u jakim-niebudź miescy nanosić masu ciopłaha vilhotnaha pavietra. Paryvaje jaho ciopłaja struja i niasie ŭharu. Tam jano natraplaje na chałodny viecier i ciopłaja vohkaja para astyvaje j skraplajecca ŭ hustyja mokryja chmary. Pavinien pačać padać doždž, ale z nizu dalej vieje ŭharu ciopłaja vohkaja struja i padtrymlivaje ciažkija daždžavyja chmary, jakija štoraz bolš huściejuć. Paśla raptam z jakoj-niebudź pryčyny, napr. źmieny vietru, u adnym miescy silnaja struja pavietra, jakaja dahetul viejała ad ziamli ŭ haru i padtrymlivała ciažkija chmary, ścichaje. Tady ŭ adzin mament hrubymi kaplami apadaje na ziamlu vada, spryčyniajučy zatopu.

Najbolšy abryŭ chmary byŭ u 1931 h. u zachodniaj Amerycy, kala miesta Bahama, dzie za 5 minut naliłosia vady na 60 centymetraŭ uvyšku, h. zn. bolš-mienš hetulki, kolki spadaje vady (daždžu) ŭ nas na praciahu celaha hodu.

*z. b.*



Choć haračy letni čas, kaśby i žniva, ale i adpačyć treba...

## Z krainy Uschodziačaha Sonca

Japoniju nazyvajuć krainaj „Uschodziačaha Sonca" abo krainaj „Raśćviŭšaje Višni". Kraina hetaja vielmi cikavaja. Raspałožanaja jana na vostravach i astraŭkoch, jakija niamała majuć skałaŭ i vulkanaŭ, jakija davoli časta naviedvajuć bury, tajfuny i ziemlatrasieńni. Na hetych astraŭkoch husta absiadajuć pabiarežžy mora lohańkija domiki; ludziej mnoha, usie pracavityja, sialanie i rabotniki vielmi biednyja — ich mocna vykarystyvajuć, eksploatujuć vyšejšyja klasy roznych kniazioŭ i pramysłoŭcaŭ. Ahułam Japonija zajmaje 385.522 kv. klm., Stalica Japonii ŭ mieście Tokijo. Usich japoncaŭ jość bolš-mienš 70 milijonaŭ. Kožny japoniec vielmi mocna trymajecca tradycyi. Na tradycyi abapiorty dziaržaŭna - haspadarstvienny ład Japonii i japonskaja relihija. Mikada — car Japonii — ŭvačach japoncaŭ heta nia zvyčajny čałaviek, ale „pasłańnik Božy". Historyja Japonii zapisvaje ŭžo 124-ha z čarhi takoha „pasłańnika Božaha" dla krainy Uschodziačaha Sonca. Sučasny, 124-ty „pasłańnik Božy" — car-mikada Siova Tenno Hirohito radziŭsia 29 krasavika i hety dzień ciapier u Japonii źjaŭlajecca najbolšym śviatam, dniom śviata Japonskaha narodu.

Dzień śviata Japonskaha narodu taksama abapiorty na tradycyi źmiennaj daty, bo jano adbyvajecca ŭ kožnyja ŭhodki dnia naradžeńnia panujučaha cara. Hetaje śviata ŭ Japoncaŭ maje svaju historyju: biare jano pačatak ad 660 hodu prad naradžeńniem Chrysta, kali ŭstupiŭ na tron pieršy car Džimunu, asoba lehiendarnaja, bo sapraŭdnaja historyja Japonii pačynajecca ad cara Riciu, jaki byŭ u pačatku V-ha stahodździa prad naradžeńniem Chrysta.

Ad hetaje daty da siańniašniaha času historyju Japonii dzielać na 8 jperyjadaŭ: Nora — peryjad najranieišy, u jakim pamysna raźvivałas a japonskaja haspadarstviennáść i adnačasna razrasłasia prydvornaja arystakracyja, jakaja paśla asłabiła ŭładu mikadaŭ, Asikaha — peryjad feudalnaj baraćby i inšyja.

Sučasny — vośmy peryjad zapačatkavany mikadam Mutsuhito ŭ 1868 h. Hety peryjad dla krainy Uschodziačaha Sonca nazyvajecca peryjadam „Novaj Japonii": u im skasavany feudalny ład i klasavyja pryvilei; pašyrajecca-ž i ŭsprymajecca Japoncami zachodnie-eŭrapejskaja cyvilizacyja i kultura.

Japonska-kitajskaja i rasiejska-japonskaja vajna 1904 h. ŭzmocniła Japoniju da raźmieru sučasnaje jaje siły, jakoj jana nikoli nia mieła na praciahu doŭhaj svajej historyi.

U 1912 h. pamior mikada Mutsuhito. Na tron ustupiŭ car Tasio Tenno, jaki panavaŭ da 1926 h. Za hety čas Japonija mocna ŭvaružyłasia. Sučasny mikada Siova Tenno Hirohito, jaki źjaŭlajecca „pasłańnikam Božym" u Japonii ad 1926 h., padparadkavaŭ Japonii vialikuju krainu Mandžuryju, a ciapier puściŭsia zavajoŭvać vializarny Kitaj i pakulšto i heta jamu udajecca. Japonija zabrała ŭžo bolš jak pałovu Kitaju.

*Astp.*

# Zbiełaruskaha žyćcia

**Dalejšyja vysialeńni biełaruskich zakońnikaŭ.** Paśla vysialeńnia z Drui biełaruskich zakońnikaŭ Maryjanaŭ ksiandzoŭ, ab čym my ŭžo pisali, 8 VII palicyja vysialiła z tej-ža Drui 4 maładych biełarusaŭ studentaŭ, maryjanskich klerykaŭ: Antona Padziavu, Časłava Sipoviča, Kazimiera Sarula i Banifaca Sarula. Adnačasna vysieleny ichni kaleha Kazimier Aniškovič — pałak. Vyjechali jany z Drui, całujučy na raźvitańnie rodnuju ziamielku. Z Vilni-ž 13.VII vyjechaŭ u Varšavu viedamy biełaruski paet i piśmieńnik, maryjanin Ks Jazep Hermanovič (Vincuk Advažny). — Treba skazać, što spravа vysialańnia biełaruskich zakońnikaŭ znajšła šyroki vodhałas u presie. Ab joj pišuć nia tolki hazety biełaruskija, ale badaj usie polskija, ukrainskija, litoŭskija, žydoŭskija i navat presa zahraničnaja. Spravaj hetaj zacikaviŭsia i pradstaŭnik Rymskaha Papy ŭ Varšavie Nuncyj Cortesi Usie hazety zvaročvajuć uvahu na toje, što miascovaje bieł. nasielnictva staić u abaronie Ajcoŭ Maryjanaŭ i vostra vystupała suproć tych ludziej, katoryja chacieli arhanizavać sabrańnie prociŭ Maryjanaŭ. Miž inš. mocna dastałasia viedamamu vorahu biełarusaŭ, endeku ks. Barodziču, jaki jechaŭ na sabrańnie. — Ad padrobnaha apisańnia spravy vysialeńnia Ajcoŭ Maryjanaŭ strymlivajemsia z pryčyn cenzuralnych. Zaznačajem pry tym, što za apisańnie padziejaŭ u Drui byŭ skanfiskavany „Kurjer Wilenski“ z 12.VII.

**Za što byŭ skanfiskavany № 14 (130) „Šlachu Moładzi“.** Vil.Haradzk. Starastva skanfiskavała 30 VI sioł. № 14 (130) „Šlachu Moładzi“ za artykuł „Polskija studenty na „Kresach Wschodnich“.

**Pamierli.** Da Vilni tolki ciapier dajšła viestka, što 4.II sioleta pamior u Savieckaj Biełarusi adzin z starejšych biełaruskich paetaŭ, Aleś Hurło.

— 16.VII u Vilni pamior viedamy biełaruski polonofił, Todar Viarnikoŭski.

**Novy biełaruski śviatar.** U Miunchenie (Niamieččyna) skončyŭ universytet biełarus Michaś Maskalik i 17-ha hetaha miesiaca paśviačany na ksiandza ŭschodniaha abradu — Žadajem jamu pamysnaje pracy na nivie relihijnaj, a taksama na nivie nacyjanalna-biełaruskaj!..

**Zvolnili z Kartuskaj Biarozy.** Niadaŭna ŭłady zvolnili z izalacyjnaha abozu ŭ Kartuskaj Biarozie biełaruskaha paeta S. Chmaru jaki byŭ tam pratrymany 15 miesiacaŭ.

**Litaraturnyja biełaruska-litoŭskija ŭzajeminy.** Uzajemnaje zacikaŭleńnie biełaruskich i litoŭskich litarataraŭ raźvivajecca i pahłyblajecca. I tak paśla litaraturnaha biełaruskaha viečaru, sarhanizavanaha Litoŭskim T-vam Litaratury i Mastactva, i paśla taho jak bieł. litaraturna-nav. časapis „Kałośsie“ (knižka 2(15) źmiaściŭ artykuł ab Litvie, pierakład z prozy i cely rad litoŭskich vieršaŭ roznych paetaŭ u biełaruskim pierakładzie, jošć užo novyja fakty, jakija litaraturnyja ŭzajeminy pašyrajuć. Voś-ža niadaŭna pajaviłasia ŭ Vilni litoŭskaja adnadnioŭka „Piuvis“ (Razrez), paśviačanaja biełaruskaj litaratury, u jakoj spatykajem niamała biełaruskich vieršaŭ roznych paetaŭ, u pierakładzie litoŭskim, a tak-ža klišy M. Tanka, M. Mašary, N. Arsieńnievaj i Vasilka. U tej-ža adnadnioŭcy źmieščany repradukcyi niekatorych abrazoŭ viedamaha biełaruskaha mastaka P. Siarhiejeviča i artykuł ab jaho malarskaj pracy. U litaraturnym dadatku litoŭskaha čas. „Vilniaus Žodis“ z dnia 10.VII.38 nadrukavany miž inš. pierakładzienyja na litoŭski jazyk dva vieršy najvialikšych biełaruskich paetaŭ: J. Kupały i J. Kołasa.

**Śviata ŭ biełaruskich skaŭtak.** U červieni m-cy sioleta adbyłasia vielmi ŭračysta prysiaha 17-ci novych biełaruskich skaŭtak. Prysiahu pryniała viečaram pry vohniščy ŭ lasku Markuci kala Vilni kamandantka skaŭtak vil. vokruhu. Paśla vitali novych skaŭtak: kamandantka i instruktarka skaŭtak, dyrektar Bieł. Himnazii M. Ancukievič, apiakunka bieł. skaŭtak A. Lekancicha i Č. Najdziuk ad Hurtka Pryjac. Bieł. Skaŭtaŭ. Uračystaść była zakončana biełaruskimi pieśniami, na vusnach z jakimi ŭ radoch viarnulisia bieł. skaŭtki ŭ Vilniu, adkul paśla raźjechalisia pa kraju.

**Z vydavieckaje nivy:** *„Пад мачтай“* — pad hetkim nazovam niadaŭna vyjšaŭ z druku ŭ Vilni novy zbornik vieršaŭ viedamaha biełaruskaha paeta Maksima Tanka. Zbornik maje 11[?] bač. Cana 2.50 zł.

-- *„Šlach Moładzi“* ŭ m-cy žniŭni sioł. vyjdzie tolki adzin raz, 25-ha.

**Biełarusy ŭ Litvie.** — 7.V.38 u Kaŭnasie, u zali Šaŭlisaŭ, adbyŭsia biełaruski spektakl i kancert. Stavili p'jesu „Ščaślivy Muž“ Fr. Alachnoviča. Viečar hety ładziŭ Biełaruski Centr u Litvie.

— Dasiulešni kiraŭnik Bieł. Narodnaha Universytetu pry Bieł. Kult. Asv. T-vie i Nac. Suviazi hram. A. Matač ustupiŭ. Na jaho miesca Litoŭskaje Ministerstva Aśviety naznačyła advakata U. Bojeva.

## Z žyćcia bratnich narodaŭ

**U Litoŭcaŭ.** — Nia hledziačy na toje, što miž Polščaj i Litvoju naviazany ŭžo dyplomatyčnyja znosiny i jduć pierahavory ab nałedžańni miž hetymi haspadarstvami handlu, u adnosinach polskich uładaŭ da Litoŭcaŭ u Vilni mała što źmianiłasia na lepšaje. Tak napr. litoŭskaja moładź, jakoj ? hady tamu zakryty byŭ časapis „Jaunimo Draugas“, nijak nia moža i siańnia atrymać dazvołu vydavać svoj časapis. Niadaŭna-ž akančalna zakryty litoŭskaja kulturnaja arhanizacyja „Rytas“ śviancianskaha vokruhu i haspadarskaje tavarystva „Ukio Draugija“.

— U lipni m-cy sioleta litoŭskaja moładź śviatkavała 20-ja ŭhodki isnavańnia litoŭskich skaŭtaŭ. Śviatkavańnie heta asabliva ŭračysta adbyłosia ŭ akolicach Kaŭnasa, u prysutnaści Lit. Prezydenta A. Smetony i pradstaŭnikoŭ skaŭtaŭ: anhlijskich, francuskich, vuhorskich, švedzkich, łatvijskich, estonskich, finlandzkich, a tak-ža z Ameryki i Aŭstralii.

— U hetym-ža m-cy lipni sioł. u Kaŭnasie adbyvajecca ŭ čeść 20-ch uhodkaŭ niezaležnaści Litvy vialikaja litoŭskaja spartovaja alimpijada, na jakuju pajechała i z Vilni bolš 40 litoŭcaŭ.

**U Ukraincaŭ.** — 29 VI u Lvovie pamior b. kamandzier ukrainskaj halickaj armii hienerał Miron Tarnavškyj — całaviek vialikich zasłuhaŭ dla Ukrainskaha Narodu.

— Adnej z najbolš važnych spravaŭ u Ukraincaŭ źjaŭlajecca ciapier abarona pravoŭ pravasłaŭje viery ukrainskaha nasielnictva, siarod jakoha apošnim časam u Rečyp. spalitaj pravodzicca enerhičnaja akcyja navaročvańnia na katalictva rymskaha - łacinskaha abradu. Pry tym zdarajucca častyja vypadki padpałaŭ pravasł cerkvaŭ niejkimi nia vykrytymi ludźmi. Suproć hetaha vostra vystupajuć ukrainskija pasły i senatary ŭ Sojmie i Senacie.

— Ukrainskija žančyny ŭ Lvovie, na miesca źlikvidavanaha admin. uładami „Sojuzu Ukrainak“, stvaryli svaju palityčnuju arhanizacyju „Družyna Kniahini Olhi“.

# ШТО ЧУВАЦЬ

— У **Польшчы** апошнім часам найбольш шуму выклікаў загад прэм'ера ген. Складкоўскага аб маляваньні дамоў, платоў і агулам аб іх упарадкаваньні. У некатораых мясцовасьцях старысты і паліцыя так срога пачалі глядзець за выкананьнем прэм'еравага загаду, што даводзілі людзей да трагічнага палажэньня, а нават да самагубства. Так напр. шмат дзе прыказана разьбіраць хаты, гумны і інш. будынкі. Супроць гэтага **ў Сойме** былі падаваны інтэрпэляцыі і ўрэшце сам прэм'ер загадаў у часе лета на вёсцы справу ўпарадкаваньняў стрымаць. — Мін. Бэк далей мрыіць аб сваім г. зв. польскім блёку гаспадар сваў (Польшчы, Латвіі, Літвы Эстоніі, Фінляндыі, Швэцыі, Румыніі, Вугры, Баўгарыі і Югаславіі) і ў гэтай справе 13.VII езьдзіў у Латвію. Блёк аднак ня клеіцца і нічога ня выходзіць Дык ня дзіва, што ходзяць чуткі, што мін. Бэк пойдзе ў адстаўку.

— Ад 19 да 22 ліпня **ў Францыі** **быў** у адведзінах **англійскі кароль** Юры VI з жонкай, якога французы прыймалі нязвычайна ўрачыста. Кароль Юры заявіў, што ён прыехаў у Францыю, каб сьцьвердзіць, што англійска-францускі саюз далей трымаецца моцна так, як і ў 1914 г. Гэта значыць, што Англія на выпадак вайны пойдзе разам з Францыяй так, як і ў 1914 г. Характэрна, што і **Злуч. Штаты Паўноч. Амэрыкі** выразна выказваюцца па старане Англіі і Францыі. Такім чынам творыцца магутны дэмакратычны блёк супроць фашыстаўскага блёку Нямеччыны, Італіі і Японіі.

— У **Чэхаславацыі** адпружаньне. Урад стараецца паразумецца з нацыянальнымі меншасьцямі. Ходзяць весткі, што **Гітлер** хоча ўжо зрабіць з Чэхаславацыяй дагавор аб ненападаньні.

— **Між СССР і Японіяй** паўстаў новы пагранічны спор. Бальшавікі занялі мясцовасьць Фэншэнг на манджурскай граніцы пад Уладывастокам і кажуць, што яна іхняя. А Японія заяўляе, што гэта мясцовасьць яе. Шмат хто думаў, што ўжо зараз выбухне **савецка - японская вайна,** але ўжо ёсьць весткі аб мяккім тоне японскага ўраду ў гэтым споры і што ўсё ўложыцца спакойна. Спорам гэтым і сваім войскам, якое масава сабіралася на Далёкім Усходзе, Саветы пастрашылі Японію і адцягнулі крыху яе ўвагу ад **Кітаю,** дзе барацьба на фронтах быццам прыціхла. — Цікава, што ў **СССР,** ня гледзячы на трывожны час, далей адбываюцца чысткі. І так нядаўна расстраляны між інш. камандзер **беларускай** савецкай арміі Белаў і быццам арыштаваны слаўны бальшавіцкі кавалерыст маршал Будзённы, каторы ў 1920 г. вёў атаку на Варшаву.



Маршал Будзённы.

— **Японія** ў 1940 г. мелася арганізаваць міжнародныя спартовыя ігры — **олімпіяду,** надовячы аднак ад гэтага адмовілася. Відаць даволі яна мае „іграў" з Кітаем. Пасьля адмовы Японіі, олімпіяду ў 1940 г. узялася сарганізаваць **Фінляндыя.**

— У **Палестыне** між жыдамі і арабамі йзноў разгарэлася заўзятая крывавая барацьба.

— У **Румыніі** памёрла маці цяперашняга караля Карла II, каралева ўдава Марыя.

— У **Гішпаніі** фашысты крычаць, што яны ўсьцяж перамагаюць урадаўцаў і адбіраюць ад іх новыя абшары і мясцовасьці. Калі-б так аднак было, то ўжо ім даўно не хапіла-б чаго адбіраць. Аднак урадаўцы бароняцца і канца вайны ня відаць. І характэрна, што цывільнае насельніцтва ўцякае ад фашыстаў да ўрадаўцаў.

*jn.*

# Usiačyna

**Novaja chvala kryzysu.** Amerykanskija pramysłoŭcy abvieścili hrašovyja spravazdačy, jakija pakazvajuć, što kali ŭ pieršaj čvierci 1937 h. byŭ dachod 200 mil. dalaraŭ, to ŭ hetym samym časie 1938 h. tolki 93 mil. dal. Ahułam ekanamisty kažuć, što nadchodzić novaja chvala kryzysu. Adčuvajecca heta mocna ŭžo i ŭ Polsšy, asabliva ŭ halinie pramysłovaj.

**Vajna mnoha kaštuje.** Japonija kožny dzień vydaje 20 milijonaŭ jen na vajnu ŭ Kitai. Heta mocna adbivajecca na hrašovym japonskim rynku. I ŭžo ŭ 1937 h. Japonija pryviezła tavaraŭ na 636 mil. jen bolš čymsia vyviezła, — h. zn. u 5 razaŭ bolš, čymsia ŭ 1936 h. Kitaj maje taksama pieravahu ŭvozu nad vyvazam, nia ličačy pryvozu aružža. Ale zahraničnyja kapitalisty dajuć Kitaju kredyt u vajennym matarjale. Vidać spadziajucca pieramohi Kitaju nad Japonijaj i što pasla jany dobra zarobiać.

**Ablacieŭ naŭkruha śvietu.** Amerykanski latun Hughes, u tavarystvie niekalki pamocnikaŭ na samalocie ablacieŭ naŭkruha śviet u praciahu 3 dzion, 19hadz., 14 min. i 10 chvilin. Lacieŭ jon pa linii: Niu-Jork—Paryž—Maskva—Alaska - Niu-Jork. Jość heta novy rekord u latunstvie. Dahetul najchutčej ablacieŭ śviet amerykanski latun Wiliam Post, adnak jon lacieŭ na 85 hadzin daŭžej.

**Abakrali śviatoha.** U červieni m-cy siol. u Polščy adbyvalisia vialikija ŭračystaści z pryčyny pieraviazieńnia z Rymu ŭ Varšavu relikvijaŭ—astatkaŭ cieła ks. Andreja Boboli, jakoha niadaŭna Katal. Kaścioł pryznaŭ śviatym. Usio było ŭparadku až da Krakava. Kali adnak prybyŭ tudy ciahnik z relikvijami, raptam zhinuła valiza z votyvami—roznymi drobnieńkimi pradmietami,— składanymi pry trunie śv. Andreja Boboli ŭ Rymie. Akazałasia, što valizu hetu ŭkraŭ chtoś; pierakanaŭšysia adnak, što tam ničoha vartasnaha nia było, kinuŭ ŭ Visłu, z jakoj vyłavili jaje rybaki.

# Uasableńnie supiarečnaściaŭ

Ks. V. Hadleŭski, adkazvajučy u № 7 „Бел. Фронту" na źmieščany 30.VI ŭ „Šl. Moł." artykuł ab jaho krutni i źmiennaści, zajaŭlaje, što jahonaja palityka astałasia niaźmiennaj, a źmianiłasia BNA. Faktyčna adnak ks. Hadleŭski nia tolki ničoha nie zapiarečyŭ, ale ŭsio, što my pisali, paćvierdziŭ. Bo ŭ hetym-ža № 7 „Б. Фронту" ks. Hadleŭski adchryščvajecca ad biełaruskaje relihijnaje pilihrymki ŭ Kalvaryju, a ŭ artykule „Biazdziejnaja biełaruskaja intelihiencyja" vyśmiejvajecca demakracyja i vyražajucca sympatyi dla źviarynaha nacyjanalizmu, jaki zhanili nia tolki demakraty, ale i Papa Rymski. Tymčasam my maładyja jašče pamiatujem, kali ks. Hadleŭski naležaŭ da Bieł. Chrykcijanskaj Demakracyi i kali palityka ŭ jaho jšła razam u zhodzie i z pracaj relihijnaj i z demakratyčnymi pryncypami. — BNA stajała i staić na hruncie demakracyi.

Charakterna pry tym, što **ksiondz** V. Hadleŭski kaža, što ahitacyja za pracesiju heta nie jaho i jahonaha „Фронту" rabota. A my ŭvažajem, što heta jakraz rabota duchoŭnikaŭ, a nia naša, ludziej śvieckich. My ŭ hetaj spravie najvyžej možam pamahać, tak jak pamahali, i tak jak pamahali ŭsie biełarusy, roznych kirunkaŭ, katoryja ceniać i razumiejuć patrebu biełaruščyny ŭ relihijnym žyćci — Ksiondz-ža Hadleŭski, jak kaža narodnaja prykazka, „kali nia pop, dyk niachaj nia ŭbirajecca ŭ ryzu".

jn.




## Сьвяшчэньнік паступае нязгодна з абавязуючым правам.

*Астрына, Шчучынскі пав.* Ня так даўно адбылася ў нас зьмена настаяцеляў. Новы наш сьвяшчэньнік быццам беларус і ўсе прыхаджаньне таксама беларусы. Аднак сьвяшчэньнік чамусьці пачаў вучыць у школе рэлігіі папольску і пробаваў нават гаварыць у царкве папольску казаньні. Калі сяляне запыталіся яго, чаму ён гэтак робіць, дык ён сказаў, што так рабіць сказалі яму ўлады. Але мы гэтаму ня верым. Бо вось нават у школьным падручніку: „Z naszej teraźniejszości" чытаем, што ў Польшчы ёсьць толеранцыя, што ўсе грамадзяне розных нацыянальнасьцяў роўныя, ды што могуць вызнаваць тую рэлігію, якую хочуць і карыстацца ў малітве сваей роднай мовай, ніякага ж прымусу ня можа быць і няма і г. д. І гэтыя правы забясьпечвае нам Польская Канстытуцыя! Дык няма чаго крывіць душой! Мы праваслаўныя беларусы хочам маліцца пабеларуску і хочам, каб нас нашай праваслаўнай рэлігіі вучылі сьвяшчэньнікі пабеларуску. І сьвяшчэньнік у такіх выпадках павінен паступаць згодна з воляй народу і з абавязуючым правам.

*Г. В—кевіч.*

## Ksiondz nia choča spaviadać biełarusa

*Žodziški, Vialejskaha pav.* U nas zdaryŭsia niabyvały i niačuvany vypadak. Usio badaj nasielnictva ŭ nas biełaruskaje, a ks. probaršč-palak. U časie vialikadnych spoviadziaŭ, pajšoŭ vyspaviadacca da ks. Jana Jaśkieviča — probaršča Žodzišnaj parachvii— biełarus katalik Antoni Hryškievič z v. Panižany i, jasna, pačaŭ spaviadacca pabiełarusku. Pačuŭšy biełaruskuju movu ks. J. Jaśkievič nia vytrymaŭ i zažadaŭ, kab hram. A. Hryškievič spaviadaŭsia papolsku; kali-ž jon skazaŭ, što papolsku nia moža, dyk tady probaršč kryknuŭ jamu: „To idź spowiadać się do Wilna do księdza biełarusa" i sa złościu pakinuŭ spaviadnicu i ŭciok.

Pytajemsia, ci moža tak pastupić probaršč adnosna svajho parachvijanina? Ci ž Chrystus i jahonyja apostały adhaniali ad siabie ludziej? Ale nia budziem ks. J. Jaśkieviča raŭniać da Chrysta i jahonych apostałaŭ, kab nie abražać hetym henych śvietłych postaćciaŭ. Adznačajem hety fakt tolki dziela historyi i kab źviarnuć na jaho ŭvahu vyšejšych uładaŭ Katalickaha Kaścioła.

*Śviedki.*



## Paštovaja skrynka

**E. Siel-cy:** Pakulšto tvory Vašy słabyja i da druku nie padchodziać. Treba bolš čytać tvoraŭ biel. klasykaŭ (Kupały, Bahdanoviča, Kołasa) i bolš pracavać nad saboj, a tady zmožacie pisać dobra.

**Siarhiejevu, Jemieljančyku i Dydušcy:** „Šlach Moładzi" vysyłajem akuratna. Prosim damahacca na pošcie.

**M. V. u Łatvii:** Pracujem i časapis Vam vysyłajem akuratna. Pryvitańnie!

**J. Narcyzu:** Vieršy niajasnyja, nia vytrymanyja raźmieram, i z rusycyzmami. Da druku nie padchodziać. Radzim bolš čytać i pracavać nad saboj i svaimitvorami.

**Dr. J. M.:** Dziakujem, jak bačycie, karystajem. Pryvitańnie!

**K. Rahojšy:** Matarjały atrymali, dziakujem. Budziem staracca vykarystyvać.

**V. Kuźmickamu:** Vieršy słabavatyja: kulhaje ŭ ich mova i raźmier, nia zusim jasny i źmiest. Pisać adnak možacie, tolki treba bolš papracavać nad saboj.

**M. J—ku:** Vieršy, nažal, słabyja. Bolš treba čytać biel. paezii, paznać dobra biel. hramatu i pracavać nad saboj.

**J. Čornamu:** Hrošy i matar'jały atrymali, dziakujem. Budziem staracca papraŭlać i vykarystyvać. Prozaj radzim pisać.

**H. Novik:** Vieršy atrymali, dziakujem. U mieru mahčymaści budziem drukavać.

**Lavonu:** Karykatury dobraja reč, ale klišy kaštujuć doraha, dziela hetaha nia źmožam ich davać. Pryvitańnie!

## Пісьмо ў Рэдакцыю

**Паважаны Грамадзянін Рэдактар!**

Не адмоўце, калі ласка, зьмясьціць у Вашым Паваж. часапісе ніжэйпададзеныя колькі слоў выясьненьня ў сувязі з артыкулам „Урачыстая Акадэмія ў чэсьць с. п. Д-ра Т. Грыба" (у чужаслове!) з аднаднёўкі „Наш Золак" з дня 23 чэрвеня 1938 г.

1. Ніжэйпадпісаны быў прэлегентам на Акадэміі ў чэсьць с. п. Д-ра Т. Грыба не як „манапаліст", а на запросіны Ураду Бел. Студ. Саюзу, які ладзіў гэтую Акадэмію.

2. Асяродзьдзе, месца і час Акадэміі ясна вымагалі паказаць слухачом духовую постаць нябожчыка як **беларуса** (студэнта і грамадзяніна), а не як дзеяча партыйнага.

3. Як выканана была гэта задача, найлепш сьведчыць згодная для прэлегента рэакцыя слухачоў на залі і абурэньне тых-жа слухачоў з прычыны выступленьня опонэнта.

4. Аб арганізаваньні беларускага хору ў Празе лепш было-б для самога „Золак а" не ўспамінаць. Але калі ўжо так сталася, дык лішне толькі йшчэ раз пацьвердзілася, што для пэўных „рэвалюцыянэраў" сапраўды няма нічога сьвятога (ані хору, ані „Інстытуту"), на што яны не хацелі-б налажыць сваю партыйную пячаць. Прэлегент зусім не казаў, што „нябожчык арганізаваў бел. хор", бо гэтага ня было(!), але казаў, што „браў удзел". Сам-жа прэлегент „памагаў арганізоўваць гэны хор"(!), але — ня Грыбу!

5. Урэшце супроць сугестыі „Золака" трэба бесстаронна сьцьвердзіць, што Т. Грыб, паміма сваіх партыйных перакананьняў, умеў знайсьці сутычныя і агульна беларускія. Гэта свомасьць нябожчыка карысна вырозьнівае яго спасярод асірочаных яго...ых партыйных аднадумцаў, якія, ізоляваўшыся ад ўсякай творчай беларускай працы, ня толькі не патрапілі самі ўздабыцца на штосьці вартае памяці свайго лідэра („магчымасьці" для кожнага роўны), але не астанавіліся нават прад спробай зьбурыць тое, што робіць іншыя. Паказалі гэта: словам—на Акадэміі ў Вільні 7.V.1938 г., і друкам—у ўспомненай аднаднёўцы „Наш Золак", які блізу ўвесь запоўнілі павадыр расейскіх эс-эраў В. Чернов. Рэдакцыя-ж „беларуская" аграпічылася да выліваньня толькі затрутай жоўці. З беларускімі эс-эрамі кепска. Але гэта ўжо іх нутраная-,„партыйная" справа.

Прыймецe выражэньне пашаны

5.VII.1938. **Ад. Клімовіч.**

---

Гэтым абвяшчаецца, што 29-га жніўня 1938 году

## адбудуцца ўступныя экзаміны

## ў Віленскую Беларускую Дзяржаўную Гімназію

**Заявы (паданьні) прыймаюцца да 25-га жніўня 1938 г.**

Бліжэйшыя інфармацыі аб гэтым, на жаданьне, высылае бясплатна дырэкцыя гімназіі, адрас якой наступны: Gimnazjum Białoruskie—Wilno, ul. Dominikańska 3/5.

*Кожны беларус павінен старацца аддаваць сваіх дзяцей у школах БЕЛАРУСКІХ!*

---

*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.

